# НАВІНКІ

Серада, 19 траўня 1999 №7(15) Кошт свабодны







Не пропадет наш скорбный труд

Во глубине сибирских руд храните гордое терпенье

И дум высокое стремленье

# Да 200-ай гадавіны А.С.Пушкіна засталося 18 дзён

## А.С.Пушкін як люстэрка крызысу буржуазна-дэмакратычнай стратэгіі беларускай апазыцыі на прыкладзе бесьсьмяротнага твору «Казка пра цара Салтана»

За гарачай падрыхтоўкай сьвяткаваньня юбілею Пушкіна неяк мімаходам вылецеў з башкі факт, што Аляксандар Сяргеевіч – амаль аднагодак Вялікай Французскай Рэвалюцыі, якая, як вядома, абвесьціла прыход буржуазна-дэмакратычнага ладу. Гэта ня проста дасужы факт. У свой час яшчэ Ленін у артыкуле пра партыйную літаратуру давёў, што кожны літаратар, круці–не круці, выдае на паперу фізіяномію эпохі, у якой яму выпала жыць. Адсюль – Пушкін як сын свайго часу падсьвядома адлюстроўваў у сваіх творах аксіёмы, характэрныя норавам нараджаючай буржуазнай дэмакратыі, у прыватнасьці, архі-заканамернасьці яе палітычных працэсаў. У гэтым гермэнэўтычным фокусе цікава праналізаваць палітычныя разборкі, што адбываюцца ў нашай краіне, праз прызму пушкінскай лірыкі. Для прыкладу возьмем дзіцячы бэстсэлер пра цара Салтана і царэўну Лебедзь. І што мы бачымі Банальны антыканстытуцыйны пераварот сіламі фракцыі плутакратаў-намэнклятуршчыкаў (баба-паварыха, – чытай, клан Лукашэнкі). Лідэра апазыцыі, маладога князя Салтана, з ягонай маці высылаюць у пучыну акіяну, папярэдне закатаўшы дысыдэнтаў у бочку нібы агуркі ў слоік на зіму.

Нават, каўбой Хагіс зразумее, што адысэя Салтана і ягонай маткі – мэтафара прыгодаў нашых палітыкаў, напрыклад, Пазьняка і Навумчыка. Вялікі горад на востраве Буян, куды занесла пушкінскіх герояў, – ні што іншае як Нью–Ёрская буржуйская мэтраполія на Манхэтэне. Аклімаўшыся троху ў Заморшчыне, Салтан пачынае дывэрсійную працу супраць рэжыму цара Гвідона. Сечаце фішку?! Фактычна перад намі знаемы да болю палітычны расклад: дэмакратычная эміграцыя versus айчынная дыктатура.

Цяпер, аналізуючы паводзіны і стратэгію апазыцыянэра Салтана ў барацьбе супраць камарылы Гвідона, ня цяжка вывесьці мэтадалягічную базу для зьвяржэньня дыктатарскіх рэжымаў у краіне з патрыярхальнымі формамі грамадзкай сьвядомасьці. іх можна налічыць аж тры:

А) Проста і банальна падкупіць тырана. Сэмантычны знак афэры – плюшавая вавёрка з зубнымі пратэзамі, што задарма харкаецца смарагдавымі арэшкамі з залатымі шкарлупкамі. Гэта сымбаль крэдытнай павуціны міжнародных банкаў, якім палец у рот не кладзі. Хочаш–ня хочаш, але прыгадаеш тут і ўсіхмоцныя непатапляльныя фонды, якія шчодрацца тымі залатымі шкарлупкамі, разумна пакідаючы сабе каштоўныя камяні.

Б) Ваенная інтэрвэнцыя. Адной цудоўнай раніцай на гарызонце зьяўляецца збройная армада ў асобе 33 вадалазаў–багатыроў (дэсант ВМФ ЗША) і калбасяць пачым дарма ўсё і ўсіх с понтам прэвэнтыўна спыніць гуманітарную катастрофу. Фактычна, гэты сцэнар рэалізоўвае сёньня Клінтан у Сербіі.

*Хто ж з пэрсанажаў беларускай палітычнай сцэны ў канцы казкі застанецца ля разьбітага карыта?*

В) Нарэшце, калі ўжо і гэта не спрацуе, застаецца трывіяльны кампрамат. Дыктатару засоўваюць у ложак грудастанагастую царэўну Лебедзь (можна нават дзьве для гарантыі), пасьля здымаюць начныя гэпалкі на відэасужку і праз нейкі час круцяць па другім расейскім канале.

Згаданыя прыёмы зьяўляюцца ракавымі сродкамі барацьбы для сапраўдных апанэнтаў дыктатуры. Усё іншае – экзальтаваны палітычны снабізм кшталту альтэрнатыўных выбараў, аналёгіяй якіх у спадчыне Пушкіна зьяўляюцца правакацыі камарыка. Эфэкту ад яго ўкусаў ня шмат, але скандал гарантаваны. Да таго ж, камары – істоты досыць мабільныя, і таму, калі што, могуць запраста дзёрнуць за кардон.

Але галоўнае ня тое. Відавочна, што, як бы там ні біліся дэмакраты – іх сцэнары усё адно не сфурычаць. Лукашэнку нельга ані купіць, ані запужаць, ані тым больш застукаць зь нейкай цёлкай. Фактычна, буржуазная дэмакратыя ў стане крызысу. Яна нарвалася на цывілізацыйны фэномэн, так доўга наўмысна ігнараваны, і адразу падвісла.

Выхад адзіны – яшчэ раз творча пераасэнсаваць спадчыну Пушкіна. Вось, напрыклад, варыянт з Залатой рыбкай, як раз прызначаны для нэйтралізацыі дыктатараў нізка сацыяльнага паходжаньня (ад разьбітага карыта), якім карціць стаць царамі марскімі.

Так што, гаспада харошыя, чытайце і канспэктуйце Пушкіна!



*Нашэсьце гнусу на беларускую жывёлу набыло пагрозьлівыя маштабы. На здымку: чарговая ахвяра мошкавага тэрору – рэкардсмэнка па надоях карова Мілка была зьедзеная на хаду.*



## Падняць пэрыскоп

Калі на днях дзед Маісеіч выйшаў на парог хаты, каб паглядзець, на колькі за ноч упаў павадак на Прыпяці, яго быццам маланкай шарахнула: «У рот мяне чых-пых. Вось гэта да-а-а!.» На агародзе загарала амэрыканская субмарына «Anti-comsomolets». Побач стаяў кэп і чухаў патыліцу. «Што, браток, заглох?» – выявіў непадкупны інтарэс да чужога гора Маісеіч. Мужыкі запалілі..

Высьветлілася, што пэнтагонаўцы, вырашылі пад шумок павадку на Прыпяці даслаць да нашых паўднёвых берагоў сваю субмарыну. Апошняя швэндалася туды-сюды па нашай акваторыі, пакуль беларуская прырода не адмарозіла зь ёй жарт. Павадак сьпешна пачаў сыходзіць, а амэрыканцы, захопленыя трансляцыямі гульняў НБА, праспалі адліў.

«Ну, так што, можа ў хату?» – ня ўдарыў тварам у бруд наконт традыцыяў гасьціннасьці наш чалавек Маісеіч. Старая Маісейчыха адкарміла гасьцёў калдунамі, а ўвечары пэнсіянэраў запрасілі на падшэфны карабель. На борце Маісеіч ня толькі жор на халяву «Джын-Бін» і дэманстраваў, як трэба танчыць «мамушку». Захоўваючы патрыятычную пільнасьць, ён незаўважна адвінціў ад ракеты «Тамагаўк» нейкую фігуліну.

Назаўтра з украінскага боку прыйшла казацкая «чайка» і адбуксавала субмарыну. «Класны ты мужык, Маісеіч, будзеш у нас у Портлэндзе, заходзь» – сказаў на разьвітаньне капітан Хук і пажаў селяніну краба. «Лепш Вы да нас» – сьціпла адказаў наш герой. Вось так Маісеіч, быццам маленькая Саманта Сміт, навёў масты паміж нашымі народамі.

## ВІНШУЕМ!

Кандыдата ў Прэзыдэнты РБ М.Чыгіра з выхадам у другі тур прэзыдэнцкіх выбараў. Далейшых Вам посьпехаў!

*Управа БНФ*



Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Тыраж 5100 экз. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 42, 220085 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by

Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр. газ. «Известия», 9-143. Нумар падпісаны да друку 18.05.1999 г. Надрукавана ў тыпаграфіі «Мэджык» Адрас тыпаграфіі: г.Менск, вул. В.Харужай, 13; Заказ № 697

# Перамога: герой ці злачынца

## Хто рэабілітуе нацысцкіх катаў?



*Беларусы на прымусовых сельска-гаспадарчых работах у в. Дукора, 1943г. Зьлева направа: Барыс Рагуля, Янка Запруднік, Язафат Перамога.*

Ужо каторы дзень у Менску ў самых шырокіх колах грамадзкасьці мусуюцца чуткі, што ўлады зьбіраюцца перайменіць цэнтральную артэрыю беларускай сталіцы: праспэкт Францыска Скарыны атрымае назву «праспэкт Перамогі». Аўтары ідэі матывуюць гэта тым, што прапанаваная назва нібыта «менш заідэалягізаваная». Дазволім сабе не пагадзіцца з гэтым.

Выклікае вялікую насьцярожанасьць наступнае: чаму і, галоўнае, хто прапанаваў кандыдатуру Перамогі. Справа ў тым, што Язафат Перамога быў адным зь лідэраў беларускай калябарацыі падчас другой сусьветнай вайны. Варта разгледзець біяграфію гэтага вырадка беларускага народу.

Нарадзіўся Язафат Казіміравіч Перамога ў заможнай шляхецкай сям'і 25.03.1918г. Бацька, заняты пілсудчык, і маці, фанатычная каталічка, прывівалі дзіцяці буржуазна-памешчыцкія каштоўнасьці. З самых пялюшак Язік грэбаваў цяжкой доляй беларускага сялянства. Трэба было бачыць, як зьдзекавалася гадавалае дзіця зь беднай старой сялянкі-нянькі.

Ува ўсіх гульнях з простымі сялянскімі хлапчукамі, калі гуляўся зь імі ў даганялкі ці пікара, Язік ужо праяўляў сваю клясавую эксплюататарскую сутнасьць. Маючы толькі шэсьць гадоў, ён пасьпеў выдаць польскім паліцыянтам 8 савецкіх дывэрсантаў, якія хаваліся ў бацькавым гумне.

У 1926 годзе пайшоў у Радашкавіцкую беларускую школку, але не любіў беларускай мовы, пастаянна забруджваў мову палянізмамі. Але й гэтага было мала маладому Язіку, які прагнуў шырэй і глыбей праводзіць палітыку палянізацыі Заходняй Беларусі. Запісаўшыся ў польскія скаўты-харцары, Язік хадзіў па дварах і агітаваў сялянаў супраць КПЗБ, выпускаў насьценную польскую газэту *Харугва Юнацтва*.

Некаторыя зьмены ў поглядах Язафата адбыліся пад час вучобы ў Віленскай беларускай гімназіі, куды яму прыйшлося пайсьці пасьля таго, як ён заваліў іспыт па роднай польскай мове пры паступленьні ў Віленскую польскую гімназію. Пазнаёміўшыся з Рагулем і Кіпелем, суседзямі па інтэрнацкім пакоі і сталымі сабутэльнікамі, Язафат паступова праціўся адраджэнскімі ідэямі, пачаў наведваць нацыянал-сацыялістычны гурток.

З пачаткам Другой сусьветнай вайны ўжо ідэйна разбэшчаны Язафат Перамога не прыняў савецкай улады й паклёпнічаў на працэс узьяднаньня Заходняй і Ўсходняй Беларусі. Язік прамышляў сур'ёзнымі дывэрсіямі: паліў паштовыя скрыні партыйным і калгасным работнікам, пісаў крэйдай на сьценах правакацыйныя антысавецкія лёзунгі.

Зь вераломным нападам нямецка-фашысцкіх агрэсараў Перамога адразу ж здаўся ў палон і пачаў добраахвотна супрацоўнічаць з акупацыйнай адміністрацыяй. З гэтага часу цягнецца шлейф ягоных злачынстваў супраць народу.

Перамога з галавой акунуўся ў здрадніцкую дзейнасьць, выдаючы адзін за адным усе дзяржаўныя сакрэты, што ведаў. Асабліва Язафат праявіў сябе перад «новым парадкам» у галіне сельскай гаспадаркі: сказваліся шляхецкія землеўладальніцкія гены. Увесну 1942 Язафат Перамога быў узнагароджаны асабіста Кубэ ганаровай граматай і прызначаны загадчыкам сэктару прымусовых сельскагаспадарчых работ пры Беларускай Цэнтральнай Радзе.

Махровы здраднік, якое задавальненьне атрымліваў Перамога ад таго, што пасылаў беларускую моладзь на бульбу ці на вясновы сеў азімых. Сябры Саюзу Беларускай Моладзі, якіх у першую чаргу чмырылі на вырашэньне харчовай праблемы Трэцяга Рэйху, проста вешаліся ці беглі да партызанаў.

Пасьля вызваленьня Беларусі фашыстоўскі халуй зьбег разам зь немцамі на Захад, а там неўзабаве падаўся ў ЗША, пачаўшы верна й аддана служыць сваім новым гаспадарам. Сельскагаспадарчы талент Перамогі быў патрэбны амэрыканцам як другі хвост пятай нагі, таму Язафату прыйшлося хуценька перакваліфікавацца ў жоўтага шаўкапёра-нагаворніка (дзякуй, спатрэбіўся даваенны харцарскі досьвед). Працуючы на беларускай службе радыё «Свабода», Перамога разьвязана паклёпнічаў на канстытуцыйны лад Беларускай ССР, аддана адпрацоўваючы црушныя ганарары. Памёр Язафат Перамога 19.09.1991г. пад час прамога эфіру ў парыве эйфарыі, камэнтуючы прыняцьце новай беларускай сымболікі.

Так што, трэба добра падумаць, перш чым надаваць галоўнай вуліцы нашай краіны імя здрадніка беларускага народу. Хопіць, што ягонае імя ўжо ўвекавечанае ў назьве адной з плошчаў Менску. ●

**А. Абэцэдарскі**

## *Выбары*

### Вынікі галасаваньня ўражваюць

Сэнсацыйныя вынікі былі атрыманыя ў выніку галасаваньня на выбарах Прэзыдэнта РБ, якія адбыліся 16 мая.

Пры падліку галасоў, якую рабіла падліковая камісія Цэнтарвыбаркаму, было выяўлена наступнае.

Пераважная большасьць выбаршчыкаў аддала свае галасы за кандыдатуру экс-прэм'ера Міхаіла Чыгіра. Гэта ўпэўненая перамога, нават не зважаючы на той факт, што ў выбарчых бюлетэнях быў пазначаны толькі адзін кандыдат.

Уразіла таксама й рэкордная выбарчая актыўнасьць насельніцтва: агульны лік прагаласаваўшых (адпаведна знойдзеным у вурнах бюлетэням) склаў 14 мільёнаў 234 тысячы чалавек.

Што ж, пачакаем вынікаў 2-га туру галасаваньня?

# З.Пазьняк: «Мяне прымусілі!..»



**Хто б мог падумаць, што славуты беларускі палітык, бацька беларускага Адраджэньня, станецца мішэньню палітычных злодзеяў...**

Былы кандыдат у Прэзыдэнты Зянон Пазьняк выступіў з сэнсацыйнай заявай. Вядомы палітык сьцьвярджае, што яго прымусілі адмовіцца ад удзелу ў прэзыдэнцкай кампаніі. Шляхам уціску, запалохваньня й прамога тэрору дзейнічалі добра вядомыя ўсім асобы са штабу Чыгіра.

Скандал толькі пачынае разгарацца. Публіцы яшчэ невядомы сапраўдны размах махінацыяў гэтай кампаніі. «Як толькі я зарэгістраваўся, стала відавочным, што гэтыя антыбеларускія сілы зробяць усё магчымае, каб нэйтралізаваць мяне да выбараў», – сьцьвярджае пацярпелы. Па ягоных словах, вакол здаровых сілаў грамадзтва палітычныя экстрэмісты-ганчарысты стварылі атмасфэру сапраўднага разгулу тэрору, гістэрыі й запалохваньня.

«Пакуль гэты мафіёза Чыгір песьціцца ў пэрсанальнай камэры, я – даступны кожнаму гангстэру – вымушаны пакутаваць у выгнаньні», – абурана сьцьвярджае буйнейшы палітык краіны. І ён мае на гэта права.

Бліжэйшыя паплечнікі Пазьняка раптам пачалі зьнікаць проста сярод белага дня. Гэтак, у цэнтры Прагі сярод піўных кварталаў з грашыма на выбарчую кампанію зінік Сяржук Навумчык. Троху пазьней проста з рабочага месца выпарыўся Данчык. Праская паліцыя ўжо каторы дзень ня можа даць рады, куды ж падзеліся выбітныя дзеячы беларускага Адраджэньня.

Пасьля таго, як у Чэхію прыкаціла брыгада «Грамадзянскага Форуму», стала зразумелым, што справы прымаюць круты абарот. Увечары 9 траўня, калі Пазьняк мірна піў дома гар...бату, сьвяткуючы Дзень Перамогі, у дзьверы пагрукалі.

Трое бамбізаў у скуранках, прадставіўшыся зборшчыкамі бюлетэняў, адпіхнулі гаспадара ў глыбіню кватэры. Уварваўшыся ў пакой, яны скруцілі Пазьняка й пачалі жорстка зьбіваць, дамагаючыся прымусіць прагаласаваць за іхнага кандыдата ў прэзыдэнты (вядома ж, Чыгіра). Пазьняк трымаўся як сталь. Далей у ход пайшлі прасы, паяльнікі й скрыня для галасаваньня.

Калі палітык ужо амаль згубіў прытомнасьць, у пакоі зьявіўся высокі чалавек у плашчы, у якім Пазьняк пазнаў... экс-міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранку. Той, доўга не марудзячы, прапанаваў: альбо Зянон здымае сваю кандыдатуру, альбо... Мужнаму палітыку не заставалася нічога іншага, як пагадзіцца.

Зараз лідэр беларускай нацыі выступае з рашучай крытыкай нелегітымных і сфальсыфікаваных выбараў. Паводле ягоных словаў палітычны тэрор у Беларусі напрыканцы XX стагодзьдзя – справа ганебная і недапушчальная. «Усё гэта непрымальна для мяне як кандыдата ў Прэзыдэнты і палітыка. Гэтым сьведчу, што адмаўляюся ад удзелу ў сумніўных выбарах і здымаю сваю кандыдатуру.» ●

## *Кланіраваць Прэзыдэнта?*

Вынікі апошняй сэлектарнай нарады па аграрных пытаньнях у чарговы раз засьведчылі бесьсьмяротнасьць сталінскай фармулёўкі «Кадры вырашаюць усё». Пачалавечаму цяжка было глядзець на любімага Прэзыдэнта, якому прыходзіцца па жыцьці мудохацца з такімі далба..бамі як нашы рэгіянальныя бюракраты. Усё ў іх ня так: то ім павадка падасрала, то зяб не ўрадзілася, то дажджоў ім Прэзыдэнт мала паслаў...

Дзякуй Богу, сёньня прагрэс навукі дазваляе вырашыць такую, як здавалася ўчора, невырашальную праблему як кадравае пытаньне. Гаворка, натуральна, ідзе пра апошнія дасягненьні ў вобласьці кланіраваньня жывых істотаў, дзякуючы чаму можна ствараць жывыя копіі арыгіналу. Прычым гэта вам не тайваньская пад...бка - фірмовы лэйбл, зьнешняе падабенства й поўнае гаўно ўнутры.

Мэтад кланіраваньня гарантуе стопрацэнтовую кальку мэнтальнасьці і палітычных перакананьняў натуршчыка. Такім чынам, калі паставіць мадэрновыя генныя тэхналёгіі на заводзкі канвэер, ня цяжка наштампаваць 150-200 (па колькасьці раёнаў, вобласьцяў і міністэрстваў) міні-Прэзыдэнтаў. Потым усю партыю сьвежанаклянаваных эрзацаў трэба разьмеркаваць на кіроўчыя пасады ў правінцыю. Вось тады справы ў эканамічна-палітычным сэктары пойдуць як па маслу. Пакуль Прэзыдэнт-арыгінал ваяжуе па расейскіх рэгіёнах, на месцах ягоныя біякопіі глядзяць за стабільнасьцю, без валакіты караюць вінных і песьцяць лепшых. Кожная клетка краіны жыве ў напружаным працоўным графіку – своечасова выходзіць на пасяўныя, галасуе на рэфэрэндумах, кляйміць дэмакратычных вырадкаў.

Уся кіраўнічая структура зь верху да нізу прасьпіртаваная духам геніяльных задумак выканаўчай улады. Калі падобная мадэль спрацуе(а куды яна дзенецца?) у пэрспэктыве ёсьць сэнс падумаць, каб пашырыць сецць прэзыдэнцкіх агентаў да ўзроўню пасадаў старшынь калгасаў і заўгасаў ЖЭКу.

# Палітычны кіднэпінг?!

## Супакойцеся, звычайная містыка




«Жонка, стаў вячэру на стол, празь дзесяць хвілінаў буду», – бракнуў у тэлефон былы міністар МУС Захаранка і… як празь зямлю праваліўся.

Гэты выпадак выплеснуў на старонкі апазыцыйнай прэсы папуры неверагодных чутак і крыватолкаў. Лейтматыў журналісцкіх качак наступны: Захаранку, як раней Віньнікаву, захамуталі спэцслужбы, бо наш герой меў рэпутацыю заўзятага палітычнага франдзёра… Плавалі, ведаем мы гэтую казку. Памілуйце, спадарышаўкапёры, адкуль у нас палітычныя рэпрэсіі на пятым годзе выканаўчай уладыі Сэрыя таямнічых зьнікненьняў безумоўна мела месца, але якое дачыненьне да гэтага маюць «тантон-макуты» Прэзыдэнта. Прайдохі рэпарцёры заўсёды любяць запарашыць вочы дробнымі другаразраднымі фактамі. Наўрад ці публіка нешта чула, акрамя дэмакратычных кентоў апошнім часам амаль у тымсама раёне сталіцы прыкладна ў тойсама час бясьсьледна згінула прорва іншых істот і рэчаў: бомж Вася, два тамагучы і колькі хатніх жывёлаў, з прадметаў – сыр і яйкі, ключы ў цёці Зіны і г.д. Лягічных экспліцацыяў згаданым фэномэнам няма.

Усё гэта дае падставы згадаць пра наяўнасьць у сьвеце надматэрыяльных сілаў. Шляхам няхітрых апэрацыяў з арыфмэтычнай лінейкай і мапай можна нават намеціць прыблізныя контуры містычнага беспрадзелу. У выніку, злучыўшы кропкі найбольш значных зьнікненьняў (Віньнікава, Захаранка й Васябомж), мы атрымаем г.зв. «менскі трохкутнік» – зону звышактыўнай энэргетычнай дзейнасьці, эпіцэнтар якой прыпадае (абсалютна выпадкова – рэд.) на ўнутраную турму КДБ «Амэрыканку». Недзе тут, у сэнсе ў трохкутніку, і выпарыліся ў паралельны сьвет барацьбіты за дэмакратычную нірвану. Цяпер, супаставіўшы ўсе зьвесткі, ня цяжка ўявіць, як было ўсё на самой справе. А было гэта вось як:

«Жонка, стаў вячэру на стол, празь дзесяць хвілінаў буду» – бракнуў у тэлефон былы міністар МУС Захаранка і нясьпешна накіраваўся да хаты. Раптам побач зь ім раздаўся скрыгат тармазоў. Гэта была сплянаваўшая ззаду лятучая талерка, адкуль рванула брыгада зялёных гуманоідаўкасталомаў з плянэты Грамазека. Прышэльцы, бяз спробы ўвайсьці ў кантакт зь зямлянінам брутальна запіхалі экс-міліцыянта ў кабіну НЛА, патрабуючы нейкі міляфон і пагражаючы бластэрамі, ды далі газу. Мужныя спробы мінакоў, супрацоўнікаў КДБ, якія па выпадковаму зьбегу абставінаў прысутнічалі на месцы здарэньня, вырваць суплянэтніка з лапаў касьмічных піратаў былі безвыніковымі. Апарат растварыўся ў бездані ўсясьвету. Праўда нумарочкі НЛА ўдалося зрысаваць: МН 00-918 белым па чырвоным, колер НЛА бэжавы. Менскі трохкутнік засматкаў чарговую ахвяру. ●

**Ізя Азімаў**

*Юныя беларускія Лаліты шукалі нармальнага сэксу і здаровага вычварэньня, а напароліся на дзікі палітычны разврат з трагічным фіналам.*

# Каралі гвАлту

Рагнеда і Еўфрасіньня, сяброўкі з жаночай калёніі, апынуліся ля крамы «Крышталь» не выпадкова. Вырашылі адсьвяткаваць у бары пры гандлёвай кропцы амністыю, Дзень герба й сьцяга, а пры аказіі, счапіць багатых мэнаў з баблом і тачкай.

Адной стукнула дзесяць, другой ішоў дванаццаты. Хаця і трапілі герлы на нары па глупству (засыпаліся на парнусе), абедзьве даўно ўжо пасьпелі звыкнуцца да нораваў сацыяльнага дна. Ня церпячы ніякіх комплексаў наконт свайго ўзросту, німфэткі жадалі пры кожным выпадку выпяліць сваю невычэрпную круцізну. Яны хутка прывучыліся факаць чысьцячы сродак «Фэры», ня моршчыцца і не закусваць пасьля двух шклянак ядронага старадароскага первачу, перанялі нахабнаваты тон жаргону грузчыкаў з ГУМу, нагулялі 3-4 нелегальныя аборты… Зразумела, нашы гераіні даўно забыліся на асьцярожнасьць падчас кантактаў зь незнаёмымі людзьмі. Чым чраватыя такія неабачныя паводзіны, мы пабачым ніжэй. Тым часам, дзяўчаткі занялі пазыцыю за стойкай амаль каля ўваходу, і пачалі пад нясьпешную размову давіць пузыр «Крыжачка», час ад часу кідаючы зацікаўленыя позіркі на наведнікаў.

> Палітычныя маньякі прыглядзелі сабе ахвяраў для садысцкіх зьдзекаў яшчэ ў краме «Крышталь»

Сп. А.Шыдлоўскі і сп. А.Лабковіч зайшлі ў краму гаспадарскай паходкай тутэйшых. Пакінуўшы каля дзьвярэй харугву «Запіс у грамадзянства БНР», замовілі паўлітруху і флягу «Мэрынды» на запівон. Пакуль прадаўшчыца грукатала касавым апаратам, сябрукі прабеглі па залі намётаным вокам на прадмет да каго б дае…ціся. Ага, пажыва сама ішла ім у рукі. Падміргнуўшы адзін аднаму, дзецюкі рушылі да будучых ахвяраў.

– Жыве Беларусь!

– Ну, жыве, нам-та што, – какетліва паціснула плячыма Рагнеда, агаліўшы на левым прадплеччы сьвежанабітую лілію з подпісам «Мазырскі раённы палач».

– Чаго сумуем, сяброўкі, – адкаркоўваючы зубамі бутэльку, пацікавіўся Лабковіч. – Давайце лепш за Зянона.

Палітычная дыскусія, як нішто, садзейнічала новаму знаёмству і завязцы шматабяцальных сэксуальных прыгодаў. Праз пару хвілінаў кампанія ўзяла яшчэ адну на чатырох. Галімыя, недасьведчаныя малалеткі нават ня думалі, што трапляюць у пастку, і амаль адразу пагадзіліся правесьці ноч з новымі кавалерамі.

– Тут акурат па суседзтву хаза ёсьць, – разьвеяў сумневы наконт кропкі для трахадрому сп. Шыдлоўскі.

Затарыўшыся «Сакрэтам», чацьвёрка падвыпітых маладзёнаў у лічаныя сэкунды апынулася ў прасторнай управе адной апазыцыйнай партыі. Прыстроіліся сярод улётак, транспарантаў і ксэраксаў.

Пасьля другой прапушчанай па колу бутэлькі кампанія разьбілася на парачкі. Ветраныя сяброўкі былі гатовыя хоць зараз на гарачую інтымную блізкасьць, але глупышкі яшчэ ня ведалі, што за сюрпрыз рыхтуюць ім шчодрыя гаспадары. Раптам хлапчукі дасталі бюлетэні для галасаваньня на прэзыдэнцкіх выбарах і настойліва патрабавалі, каб сяброўкі аддалі свае галасы за аднаго з кандыдатаў.

«Урнаносцы!», – мільганула ў хмяльным мазжачку Рагнеды, – «Лепш ужо б групавуха, або СНІДаносец. А казала ж мне мама – беражы палітычную чэсьць з моладу. Да мяне ж пасьля гэтага нават у калёнію ня возьмуць».

– Галасуй, а то прайграеш! – пагрозьліва працадзіў скрозь зубы Шыдлоўскі.

– Адчапіся, чуеш, – і яна засандаліла партрэтам Булак-Булаховіча па купалу Шыдлоўскага. – Мы ж не дамаўляліся.

– А ты думала камасутрай за пойла расплоцісься? – не адчапляўся палітычны гвалтаўнік, горача дыхаючы падлетку ў твар вінным перагарам… – Згаджайся па добраму, інакш сілай прымусім!

– Я крычаць буду!

– Крычы – не крычы. Усё адно ніхто акрамя дзяжурнага

(НА СТАР. 4)

# Цуда-каласы

## «Што пасееш, тое й пажнеш», – гаворыць старажытная народная прымаўка

Гэта добра разумеюць у калгасе «Злачны колас», што знаходзіцца ў Хойніцкім раёне. Калі ў іншых гаспадарках рэспублікі толькі пачынаюць сеяць, то ў «Злачным коласе» ўжо ня толькі пасеялі, але й сабралі першы ўраджай, прычым у другі раз у гэтым годзе. Каб убачыць такі аграрны цуд сваімі вачыма я накіраваўся ў Хойніцкі раён.

З Хойнікаў да «Злачнага коласу» мяне згадзіліся падкінуць хлопцы з продатраду БПСМ, якія накіроўваліся на падводах шукаць па хутарах схаванае фэрмэрамі зерне. Пад'яжджаючы да гаспадаркі, я ўбачыў карціну, якая парадавала маё вока: бязьмежнае мора пшаніцы, у якой мітусіліся прыгожыя ў сваёй працы потныя калгасьнікі зь сярпамі й цэпамі ў руках. Маю ўвагу адразу прыцягнула адна жаночая постаць. Ля дарогі, прытуліўшыся да капны толькі што зжатай пшаніцы і раскінуўшы ўбокі свае магутныя ногі, адпачывала сялянка. Было бачна, што пладавітае чэрава гэтай працаўніцы вынасіла не адно дзіця. А рукі, гэтыя рукі! Яны прызвычаіліся дзёргаць саскі вымені, калоць дровы, цягаць навоз на палі… Я слаўлю цябе, жанчына працы, я слаўлю цябе, Маці-Глеба!

Пад'ехалі да цэнтральнай сядзібы. Ля сельсавету мяне сустракаў старшыня Емяльяныч. Ён аказаўся здаровым жылістым мужыком з крыху па-сялянску хітраватым позіркам. Пасьля моцнага мэханізатарскага рукапоціску пачалася наша



размова.

**Кар.: Калі я ехаў да вас у гаспадарку, то бачыў палі пшаніцы: каласы дасягаюць чалавечага росту, а зярняткі на памер можна параўнаць з кулаком добрага трактарыста! Як Вы тлумачыце такую анамалію, таварыш?**

**Старшыня:** Некалькі гадоў таму да нас панаехалі зь Менску вучоныя, каб дасьледаваць «Хойніцкі хвенамен». Убачылі наш ураджай і пачалі лямантаваць: «Радыяцыйная мутацыя!» А я во гэтак мяркую: проста нашыя людзі добра працуюць і гэта дае такія фантастычныя вынікі.

**К.: Ці ня думаеце Вы, што навукоўцы проста ня вераць у вялізны патэнцыял народнай душы?**

**С.:** Так, ніколі не зразумець гэтым кабінэтным разумнікам, што старанней працай можна дасягнуць яшчэ й не такіх посьпехаў. Вось у суседнім раёне просты хлопец-калгасьнік паспрачаўся на бутэльку самагонкі з аграномам, што вывучыць напамяць паэму «Яўген Анегін» на расейскай мове, – дык вывучыў! Праўда, пасьля таго, як ён выпіў гэтую бутэльку, ён забыў нават алфавіт, ня кажучы пра вершы. Але чаго каштуе сам факт!

**К.: Я заўсёды быў упэўнены, што людзі працы – гэта нашае галоўнае багацьце!**

Ад'яжджаў з калгасу я ў добрым настроі. Ніхто й ніколі ня зможа прымусіць нас есьці замежныя папкорны і крэкеры з канадзкай мукі, калі ў нас ёсьць такія працавітыя хлебаробы! ●

Гутарыў **Элеватар Каласовіч**



# Худую траву з поля далоў!

## Сёньня ты лабаеш джаз – заўтра Сербію прадаш!

Жалезная заслона пала. Эўропа зноў фатальна падзеленая на два анты-Сьветы – цывілізацыю славянскай дабрыні й міласэрнасьці і імпэрыю зла і чыстагану. Прыемна, што былыя куміры рок-сцэны, псэўдабунтары 80-ых не засталіся ў баку ад геапалітычных пэртрубацыяў. Яны падтрымалі заклік генэрала Баранкевіча змагацца з пачварнымі праявамі амэрыканскай культуры, кшталту мульцікаў пра Тымона і Пумбу, бубаль-гуму і кока-колы. Шэўчук шабашыць у Бялградзе на разагрэве гурта «НА-НА», Кінчаў катэгарычна адмовіўся з маральна-рэлігійных перакананьняў ад турнэ ў ЗША і навучыў сваё немаўля новым словам «Клінтан – бяка». І нашая менская моладзь не засталася ў баку і падтрымала модны славянафільскі ўгар.




11 гадзінаў вечара. У ДК «Варяг» (былы клюб «Тытанік») вячоркі. Залатая моладзь у сітцавых sarafanach, solopach, і zipunach ад Зайцава і Юдашкіна забойна адплясвае «Кракавяк», «Кадрыль», «Камарынскую»... Вядучы вечара Мерын ( былы DJ Конь) абвяшчае: «А зараз – «Валенкі»!»

Пакуль лепшая моладзь саборна абняўшыся скача ўпрысядкі, у куце ў гордай самоце стаіць нягеглая постаць у вузкіх штанах і перашытым з натаўскай шынэлю пінжаку з падбітымі ватай плячыма ды бубніць сабе пад нос гнюсавым голасам песьню амэрыканскіх «сокалаў-бамбавозаў»:

*Вот дела, ночь была,*
*Буги-вуги,*
*Все объекты разбомбили мы до тла,*
*Шуба-дуба,*
*Вся команда цела и машина пришла на честном слове и на одном крыле*
*Тутти-фрутти...*

Вось ён, стыляга, прадстаўнік новай нефармальнай маладзёвай плыні. Гэтыя маладыя людзі імкнуцца быць падобнымі сваёй вопраткай і паводзінамі да герояў амэрыканскіх коміксаў і другарадных кінафільмаў.

Сёньня ля тракціру «Славянскі» (былы рэстаран МакДональдс), дзе завялася гэтая цьвіль, нават самую нікчэмную рэч, выробленую на Захадзе, у вас набудуць за любы кошт. Тут з-пад крыса магчыма набыць «крыху пасмактаную жуйку з-за мяжы», «толькі два разы выкарыстаны» кантрабандны прэзэрватыў у форме даляра, фотакартку вельмі папулярнага зараз на Захадзе гурта «Чынгісхан».

***З размовы двух маладых людзей:***
***– Учора на Бродзе набыў у барыгі кружэлку на рэбрах.***
***– Ўаў!!!***
***– Думаў, што Элвіс. А паслухаў – дык аказаўся гэты, ну як там яго, Карал Гот.***
***– Ну й лахануўся ты, чувак! Трэба ж было на абароце лэйбл паглядзець, на сапраўднай фірме напісана «мэйд ін полэнд»...***

«Алярм! Дружыньнікі!» – быццам электрычны разрад праходзіць па натоўпе. «Крутыя каўбоі» і местачковыя Мэрылін Манро ў крэмпленавых сукенках мітусьліва хаваюцца ў падваротнях і ў падземным пераходзе. Па вуліцы ідзе Патруль Нораваў БПСМ, фільтруючы натоўп на прысутнасьць асацыяльных тыпаў. «А ну, стой! Што ў цябе за фрызура на галаве? Ты што, мужаложац?» Дзецюкі хапаюць падазронага тыпа за гальштук зь Мікі-Маўсам і, узброіўшыся штангенцыркулем, замерваюць таўшчыню падэшвы. Гэтак і ёсьць – стыляга.

Істота пачынае картава качаць правы: «А як жа Хельсінская Дэклярацыя Правоў Чалавека? Я буду скардзіцца ў міжнародны местком у Гаазе!». У адказ малады дружыньнік дастае з кішэні Судзебнік 1648г. і вяршыць суд скоры, але справядлівы: «А калі які сьмерд, або халоп беглы вобразам сваім – ці то кафтанам, ці порткамі, ці непатрэбнай песьняй – будзе пасадскі люд канфузіць, таго вора секчы люта і саборна». З галянішчаў хромавых ботаў зьяўляюцца бярозавыя розгі. Загаліўшы парушальніку дупу, патрыёты сочна прапісваюць яму з тузін гарачых. Стыляга енчыць і вырываецца: «Гаспада, гэта ж ня наш мэтад!» Але судзьдзі няўхільныя.

Гучыць калакольны звон да вячэрні. Санітары гораду грэбліва адкідваюць зьнясіленую тушку стылягі, і выцершы рукі аб падол касавароту, чынна рухаюцца да храму. ●

**Эдзік Рознэр**

## «ДАЙ ПРЫКУРЫЦЬ МІЛОШАВІЧУ!»

**Вы – лётчык-бамбардзіроўшчык NATO, які прадухіляе гуманітарную катастрофу ў Косава. Вам даручана паразіць стратэгічны вайсковы аб'ект на тэрыторыі Югаславіі. Толькі глядзіце, не прамахніцеся!..**







Калёна косаўскіх бежанцаў



Югаслаўскі стратэгічны аб'ект (кандытарская фабрыка)



Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі

(са стар. 3)

## Каралі гвАлту...

Крываротa не пачуе.

Шыдлоўскі ўсё ж свайго дамогся, і ўжо прафэсійна заламаўшы дзяўчыне рукі і падцягнуўшы да выбарчай скрыні, пацікавіўся быццам мімаходам.

– Што вы там капашыцеся, спадар Лабковіч. Можа падсабіць?

– Ды ўпіраецца, шалава. Разумееш недачэпу – патрыётку зь сябе лепіць.



– А ты яе яшчэ ў грамадзянкі БНР аформі. Адразу прысьмірэе. Там у кутку недзе асадка валялася.

– Ня трэба хлопцы, я згодна, – імгненна працьверазеўшы, пагадзілася Еўфрасіньня. – Я сама.

Аднак было ўжо позна. Лабковіч падхапіў блянк на ўступленьне ў грамадзяне БНР і запоўніў яго на імя Еўфрасіньні. Калі сябар адцягнуў яго ад дзеўкі, тая непрытомная ляжала ў кутку. Паўстала мёртвая цішыня, якая прыпынялася прыпадкам і плачам Рагнеды. А разгарачаны Лабковіч не ўнімаўся. Ён сунуў асадку ў рукі Шыдлоўскаму.

– На, цяпер твая чарга. Канчай сваю. інакш нельга. Мы з табой зараз адным артыкулам павязаныя – Арт. 119 «Аб правядзеньні незаконых выбараў».

Шыдлоўскі спачатку быў шарахнуўся, але потым узяў пяро. Ягоны твар запаліла садысцкая ўсьмешка. Ён зрабіў некалькі крокаў у напрамку сьсінелай ад жаху Рагнеды. У чаканьні экзэкуцыі малая ўжо з жахам заплюшчыла вочы, калі раптам зазьвінеў тэлефон.

– Мля, – сарвалося ў Шыдлоўскага. – Сп. Лабковіч, гэта бос зноў факсуе. Ня памятаеш, дзе тут была факсавая папера?

Патрашыцелі на хвіліну пераключылі сваю ўвагу на апарат. Гэтых доляў сэкунды хапіла Рагнедзе, каб віхрам выскачыць з управы.

Выпадак на ўправе стаў для яе добрым жыцьцёвым урокам. Дзеўка амаль цудам не аддала свой голас за кандыдатаў у Прэзыдэнты. Гарэза асэнсавала ганебнасьць сваёй былой экзыстэнцыі і назаўсёды кінула дурныя звычкі. Закадзіравалася нават ад паленьня. Сёньня яе можна сустрэць у адным зь менскіх пераходаў, дзе яна прадае крышнаіцкую літаратуру і ванючыя сьлезаточныя сьвечкі, заклікаючы пакупнікоў да міру і дабрыні.

Чаго ня скажаш нажаль пра Еўфрасіньню. Калі сяброўка Рагнеды ачухалася зранку каля ўваходу на ўправу, то адразу зразумела, што ня зможа жыць на сьвеце з такім каменем на палітычнай сьвядомасьці. Тым больш, родныя хутка дазналіся, што іхная дачка бярэ ўдзел у альтэрнатыўных выбарах. Для сям'і гэта быў жорсткі шок. Маці праплакала ўсю ноч. Бацька пароў дачку, як сідараву казу. Зранку Еўфрасіньня ад адчаю вынесла з хаты срэбныя лыжкі з буфэта, штурхнула іх цыганам на «Салюце» за порцыю гераіна і наўмысна закаціла сабе слановую дозу...

Калі яе труп вылавілі ў Сьвіслачы, наіўныя дзіцячыя вочкі раскоса глядзелі ў блакіт неба, быццам пыталіся з дакорам у дарослых: «За што, у натуры?» На целе самагубцы знайшлі кароткую перадсьмяротную цыдулку «У маёй сьмерці прашу вінаваціць Ганчара В.» ●

**Паводле матэрыялаў МУС БНР**